Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem

№. 15. Вільня, Пятніца, 7 Траўня 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.

**Цана абвестак:**
на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ўваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

**† Кс. К. СТЭПОВІЧ**

**(КАЗІМІР СВАЯК)** — Беларускі паэт,

**маючы 35 гадоў памёр 6 траўня 1926 года.**

**Вынас цела з Літоўскай Клінікі (Віленская 28) да касьцёла сьв. Мікалая наступіць 7.V. а 5-ай гадз. па пал.; жалобнае набажэнства ў тым-жа касьцёле 8.V.—а гадз. 10-ай раніцы, пасьля якога паховіны на магілках Роса.**

## Сялянства і сацыялізм.

Пасьля няўдач застасаваць камуністчную сыстэму працы ў землеробстве ў Расеі, паўстала ў вострай форме сялянскае пытаньне. Сацыялісты Эўропы зьвярнулі ўвагу на гэтае з'явішча і пачалі шукаць прычын правалу марксыстаў нятолькі ў Расеі, але і ў Заходняй Эўропе. Сьцьвердзілася, што ня гледзячы на, здаецца, так прадуманыя навукова праграмы, як сацыял-дэмакратычная (марксаўская), ёсьць няжыцёвым стасаваньне іх да сялянскага жыцьця, бо тармозіць поступ сялянскае гаспадаркі і робіць вялікія шкоды эканамічныя. Для асьвятленьня сялянскага пытаньня, сэкрэтарыятам міжнароднага агенства сацыялістычнае прэсы (Agence Internationale de la presse socialiste), была выпісана анкета ў справе сялянскага (аграрнага) пытаньня сярод відных прадстаўнікоў сацыялізму і прафэсыянальнага руху. Для іх сялянскае пытаньне вырасла нечакана. Усе яны апіраліся на К. Маркса і думалі, што сялянства і сялянская гаспадарка ёсьць пережытак, пераходная сыстэма вырабу гаспадарчых прадуктаў, якая ня вытрымае канкурэнцыі вялікіх прадпрыемстваў гаспарчых (камун) і занікне. Сялянства-ж само спралетарызуецца і як кляса асуджана на сьмерць. Па яго зьнікненьні можна будзе завесьці сацыялізм. Але гэтак ня сталася. Сялянства стала жыцьцёвым элемэнтам сучаснае эканомікі і ня распалася, напроціў: праявіла актыўную дзейнасьць ва-ўсіх краёх Эўропы. На анкету адказалі: Ф. Дан—расейскі сац.-дэм., Іозэф Стивін—чэха-славацкі сац.-дэм., Отто Баўэр—аўстрыйскі сац.-дэм., Леон Жуо—француcкі сацыяліст, Ноэль Бэкстон—лябурыст—міністар землеробства ў кабінэце Макданальда, Эміль Вандэрвэльд—бэльгійскі сац.-дэм. і Чернов—расейскі сац.-рэвалюцыянер.

Вось больш-менш што ўдалося канстатаваць сацыялістам:

1) Сялянства ёсьць сіла, якая не распалася, як прадугадвалі марксісты, а наадварот—кансалідавалася і кансалідуецца.

2) Шлях пралетарызацыі, шлях сацыяльна-клясавае сьмерці сялянства, які вядзець да сацыялізму і камунізму ў прамысловасьці (па марксаўску), не апраўдаўся на практыцы ў сялян, бо да сацыялізму не давёў і покуль-што не вядзе.

3) Вялікі індывідуалізм сялян.

Але некатарыя яшчэ не пакінулі пагляду на сялянства, паводле якога сялянства ёсьць атрафіруючыся орган сельскае гаспадаркі. (Ф. Дан). Апрача таго ўсе сацыялісты хочуць прыцягнуць сялян у свой лагер сацыялізму, і такім спосабам—дастасовываючыся да жаданьняў і псыхалёгіі сялянства весьці яго ў „царства сацыялізму". Тут яны хочуць выкарыстаць сялянства як сілу, без якой ім не здабыць перамогі над буржуазіяй. Цяпер паўстае сур'ёзнае пытаньне. Сьцьвярджаючы, што работніцка-сацыялістычныя тэорыі ня могуць быць стасаваны на практыцы ў сялянскім жыцьці, як гэта можна ў работнікаў, цяжка гаварыць і вышукоўваць абходныя дарогі, якія-бы вялі ўсётакі і сялянства да сацыялізму. Не абходнымі, а простымі дарогамі, можна скінуць панаваньне буржуазіі і вялікага капіталу. Гэтая дарога ёсьць клясавае ўсьведамленьне сялянства з сваімі клясавымі сялянскімі інтарэсамі, эканамічнымі праграмамі і арганізацыямі. Чыста сялянскія арганізацыі, само сялянства, жывучае з працы ўласных рук, дабываючае сродкі жыцьця на сваім кусочку зямлі, зможа выткнуць правідловы шлях барацьбы з сваімі дармаедамі. З буржуазіяй сялянства ня можа ісьці, бо яна вечна выкарыстоўвала і ўціскала яго; дарогі, вытыканыя сацыялістамі не палепшалі сялянства.

Гэтыя факты гавораць, што сялянства мусіць ісьці самастойна ў барацьбе за свае правы і палепшаньне жыцьця. Прыкладам, дзе камуністычных тэорыяў не ўдалося застасаваць на практыцы сярод сялян, ёсьць Расея. І цяпер правадыры камуністаў, каб не пакінуць саўсім сацыялізму, як Бухарын, — зьвяртаюцца да тэорыяў расейскіх эсэраў. Ці магчымы-ж сацыялізм ў сялянскай гаспадарцы, якому з прыведзеных вось ніжэй даных можна шмат паставіць запярэчаньняў з пункту гледжаньня чыста эканамічнае выгады? Каб гэта бачыць, паглядзём, што дае практыка і статыстыка, лічбы якой гавораць саўсім не на карысьць вялікіх маёнткаў і падобных да іх камунаў марксаўскае зьбіральнае сыстэмы. Ходзіць аб тое, каб устанавіць, як вялікая мусіць быць гаспадарка і якая велічыня яе прыносіць балей карысьці. Звычайна, дзе гаспадаркі бываюць вялікія, ўласьнік мае працу толькі кіруючую і мае памоцных кіраўнічых, а самая праца выконваецца сіламі чужымі; сярэднія гаспадаркі, калі ўласьнік кіруе і сам троха працуе фізычна, а рэшту працы выконваюць сілы чужыя, і малыя гаспадаркі, калі сам уласьнік выконвае ўсю працу. Выгады вялікіх: вялікія гаспадаркі дапушчаюць аддзяленьне працы кіраўнічае, ад працы выконваючае, маюць большы капітал, таму могуць дастаць лягчэй паравыя плугі, малатарні і г. д.; яны маюць выгады збыту, бо робяць гуртам, ім лепш пазычаюць грошы. У меншых гаспадарках ідзе ў увагу збольшаны інтэрас уласьніка і яго сям'і на паадзінокіх працах, дзеля чаго яны выконваюцца з большаю дасканальнасьцю і пільнасьцю. Праца тут ня зьвязана працоўным часам, так што некатарыя работы можна зрабіць у пару, чым папярэджваюцца шкоды, якія ў вялікіх маёнткам няўхільныя, напрыклад падчас жніва, ці пры выбіраньні бульбы. Далей, дасягваецца тут лепшага выраўнаньня працы ў паадзінокіх порах году, карыстаючыся тым, што працоўныя сілы маем калі патрэба. Прадукты з меншай гаспадаркі йдуць на пракармленьне пераважна сям'і *і не залежаць ад часовых цэн рынку* *).

Меншыя гаспадаркі, такім чынам, маюць перавагу там, дзе скутак працы залежыць ад асобнага стараньня і пільнасьці выконваючага працу. Пры гадоўлі жывёлы меншыя гаспадаркі маюць вялікую перавагу, таму што жывёла множыцца там лягчэй, дзе болей ахвяроўваецца яму асобнага стараньня. Большыя гаспадаркі маюць выгаду да гэтага часу там, дзе ходзіць аб выкарыстаньні вышэйшых знаньняў гаспадара (прадпрыемцы), выгад большага капіталу і машын, але калі наагул цяпер культура падымаецца, то і гэта адпадае. У большых гаспадарках выраб мала залежыць ад ручной працы. З поступам тэхнікі, калі машыны дасканаляцца, робяцца малыя, добрыя да ўжываньня на малай гаспадарцы і танейшыя, калі пачынае разьвівацца сялянская капэрацыя, а яна ў нас патрэбна, каб была пастаўлена на адпаведную вышыню, то тагды выгады вялікае гаспадаркі ня могуць канкураваць з гаспадаркамі драбнейшымі, асабліва, калі ўзяць пад увагу момант псыхалёгічны селяніна — любоў да самастойнага гаспадараваньня. Цяпер саўсім такі ня можа быць праведзяны канцэнтрычны закон К. Маркса, які гэтым законам характэрызаваў разьвіцьцё гаспадаркі свайго часу. Закон гэты ляжыць у тым, што выраб канцэнтруецца балей у большых прадпрыемствах, што ў промысьле ёсьць праўдаю, у землеробстве наадварот, разьвіцьцё

*) Прыкл. калі вялікая гаспадарка патрабуе грошы на аплату работнікам, то мусіць прадаць збожа хоць і па нізкіх цэнах, а работнікам заплаціць нармальна. Напроціў, малая гаспадарка не патрабуе плаціць нікому і можа чакаць на цэны вышэйшыя. Вялікая гаспадарка нясе ад гэтага страты.

ня йдзе гэтак, яно йдзе якраз процiў гэтага закону і вялікія земляробныя прадпрыемствы ня вытрымліваюць канкурэнцыі з малымі. Гэта пацьвярджаецца ў зямельным валаданьні ў ва-ўсіх гаспадарствах эўранэйскіх і міма эўрапэйскіх. Так напр. у Нямеччыне ад 1882—1907 узрасла (+), або зьменшылася (—) зямля ў гаспадарках

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ад 2—5 | гэктараў | + 115,000 | або | 3,6% |
| „ 5—20 | „ | + 1,263,000 | „ | 13,8% |
| „ 20—100 | „ | — 586,000 | „ | 5,9% |
| балей 100 | „ | — 731,000 | „ | 9,4% |

Гэта паказвае, што ў гаспадарках ад 2 да 20 гэктараў зямля павялічвалася таму, што яны давалі даход добры і можна было прыкупіць, але як пераступіла за 100 гэктараў, дык пачала падаць гаспадарка, таму што патрабавалісь сілы апрача радні, праца не вялася старанна і даход зьмяншаўся. Самымі даходнымі гаспадаркамі былі ад 5 да 20 гэктараў. Калі-бы на вёсцы і далося што рабіць у кірунку да сацыялізму, то не ў ва-ўсіх галінах гаспадаркі. З гэтых уваг можна зрабіць вывад, што ў сучасны мамэнт падзел у Беларускім Пасольскім Клюбе не часовае зьявішча і не нярынцыповае, а наадварот пастаяннае і прынцыповае, мае свой ідэалёгічны і эканамічны падклад. Што дагаджае работнікам, ня можа дагаджаць сялянам, бо праца сялянская, як характар, парадак ёсьць аддзеленаю ад мэханічнае працы работніка пры станку. Тэорыі добрыя работнікам, ня добрыя селяніну. Няхай скажуць сяляне самі, ці хочуць яны жыць і працаваць ў камуне, ці ў пана ў маёнтку, які гэтакі-самы як камуна па характару працы, нават і жыцьця?

Вось чаму Сял. Саюз—справа жыцьцёвага істнаваньня сялян, справа, як выгадней і лепей выбрляць хлеб, без якога ня могуць жыць і работнікі ў местах; справа, як разьмяжаваць паміж сялянамі зямлю, каб яна была даходнейшаю і людзству жылося лепш. Таму паводле выгад эканамічных мусіць і застасоўваць свае адносіны сялянства да сацыялізму і яго тэорыяў. Дзеля гэтага мусіць мець свае ўласныя арганізацыі, само сялянства мусіць разьбірацца ў гэтых справах праз свае арганізацыі, а не тапіцца ў імгле тэорыяў, як яны—будуць добрыя на практыцы, ці не, і паводле атрыманых досьледаў свае адносіны застасаваць да сацыялізму, асабліва камунізму. Гэта арганізацыя сялянства ня значыць, што работнікам аб'яўляецца вайна.

*І. Н.*

# „Новы курс“.

„Беларуская Справа“, орган „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады“ вельмі стараецца штонебудзь знайсьці ў партыі „Беларускі Сялянскі Саюз“, што дало-б повад ей крытыкаваць Саюз. Не знаходзячы аднак у праграме і ў тактыцы Беларускага Сялянскага Саюзу матываў нязгодных з сялянскай ідэалёгіяй і інтарэсамі усяго беларускага народу, „Беларуская Справа“ пачынае шукаць сабе фундамэнту для крытыкі і хапаецца за рэчы, якія нічога супольнага ня маюць з Бел. Сялянскім Саюзам, або вынаходзіць аргумэнты асабістага характару. У № 2 „Беларускай Справы“ закідаюць нам, што „Сялянская Ніва“ „выразна бярэць курс на Варшаву“.

Паглядзім на чым апіраюцца такія сьмелыя вывады. Перш-наперш, „Бел. Справа“ гавора аб тым, што „Беларуская Крыніца“ зьмясьціла стацьцю, з якой відаць наш „курс на Варшаву“. Не ўваходзячы зусім у зьмест гэнай стацьці мусім толькі адзначыць, што стацьця гэна нічога ня мае супольнага з намі, бо Сялянскі Саюз мае свой орган „Сялянскую Ніву“, у якой праводзе сваю ідэалёгію, якая, як ведама чытачом, апіраецца прадусім на свае беларускія сілы—на беларускае сялянства.

Другі закід, што „Сялянская Ніва“ нібы-то „дыплёматычна ўтаівае“ ад сваіх чытачоў факты адміністрацыйных гвалтаў над культурнымі беларускімі ўстановамі, чаго доказам нібы мае быць той факт, што наш орган ня ўспомніў аб забароны з боку ўладаў гр. Луцкевічу вучыць у беларускай гімназіі. Вось жа гэта так жа выглядае мала паважным. Няможна на чыста асабістых уражаньнях рабіць вывады аб утаіваньні гвалтаў агулам і рабіць з іх вывады аб зьмене курсу. А што „Сялянская Ніва“ ня ўтаівае ніякіх гвалтаў з боку адміністрацыі, таго доказам ёсьць зьмешчаныя ў „Сялянскай Ніве“ інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у справе надужыцьцяў і гвалтаў адміністрацыі. Справу з грам. Луцкевічам уважаем за справу, якіх жыцьцё нам прыносе амаль што ня кожны дзень, бо ўсім сьвядомым беларусам атрымаць польскае грамадзянства вельмі рэдка ўдаецца. Аб тым, якое значэньне грам. Луцкевіч меў для гімназіі, найбольш компэтэнтна можа сказаць гімназія, якая ўжо ў свой час была ўтраціла гр. Луцкевіча, як вучыцеля, з прычын нам ня знаных, аднак аб чым тагочасныя газэты мала ўспаміналі.

Цяпер чытачы ясна відзяць, на чым апірае „Бел. Справа“ закід „Сялянскай Ніве“ ў яе „курс на Варшаву“.

## Не заусёды будзе так!

Ня век насіць ваду збан,
Бо на ўсё ёсьць сьмерці час;
Ня век будзе ліхі пан
У балота таптаць нас.

Блісьніць сонца і ў наш край,
Сонца Волі і Свабод;
З сьлёз няволі зробіць рай
І асьвеціць наш народ.

**Кравацкі.**

## Люблю вясну...

Люблю як траўка зялянее
І птушкі весела пяюць;
Люблю як сонейка прыгрэе,
А цені свой вянок плятуць.

Люблю я хвалі рэк бурлістых
І лесу ціхі манатон;
Люблю я колер гор срабрыстых
І нівы ўзгораны загон.

Люблю я рух, бязперастаньня
Які пануе на вясьне...
Я ўсё люблю, усё да званьня —
Што толькі родна для мяне!

Я—сын вясны, жыцьця і згоды —
Мая вясёлая сямья...
Мне трэба сьвету і свабоды,
Мне трэба сьпеву салаўя!

**В. Шнодзіч.**

На канчатак можам толькі прыпомніць словы расейскага песьняра: „Чем кумушек считать трудиться“... і адначасна зьвярнуць ўвагу на § 51 палітычнае плятформы „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“, які гавора: „Ідучы да сваіх мэтаў, Б. С.-Р. Грамада карыстаецца шляхам легальнай, законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права“. Гэтыя словы, выпісаныя на штандары Грамады ня мала гавораць аб яе „курсе“.

Але ад глыбейшых вывадаў у гэтай справе покуль-што ўстрымліваемся, ведаючы, што беларускі селянін ужо добра сам ар'ентуецца ў беларускім жыцьці.

**Сэкрэтарыят Б. С. Саюзу.**

## ПАЭТЫЦКАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ.

**(З нагоды 20-цілетняга юбілею ягонае літэратурнае творчасьці).**

### III. „Шляхам жыцьця“.

„Песьня мая ня ўзышла сярод кветак,
„Кветак цьвітучага вечна паўдня...
„Поўначы сумнай забыты палетак
„Дай ёй жыцьцё пасярод палыньня“...

*Я. Купала.*

Праходзіць некалькі гадоў ад выхаду „**Гусьляра**“ і вось у 1913 г. ў Пецярбурзе зьяўляецца ў друку новы, вялікі, 250 старонак з лішкам маючы, зборнік Купалы п. н. „**Шляхам жыцьця**“.

Зборнік гэны, з прыгожым малюнкам на вокладцы, прадстаўляючым у бязконцы ідучую беларускую дарогу, дый з партрэтам самога Купалы, — абыймае ўсю ягоную лірыка-эпічную творчасьць за перыяд 1910—1913 г. г.

Калі зьмест „**Гусьляра**“ ня надта-ж далёка адыйшоўся ад „**Жалейкі**“, дык затое ў зборніку „**Шляхам жыцьця**“ паэт зрабіў аграмадны крок у перад.

Больш! бо ён тут даходзе да зэніту, бяручы найвышэйшы тон на сваіх чароўных гусьлях!..

Тутака прад намі не салавейка і на'т ня сокал, ня кажучы ўжо пра верабейку, з якім калісь раўняў сябе скромны паэт, — не! прад намі тут горды арол, які адважна расправіў магутныя крыльлі свае да паднебнага лёту.

Найлепшай ілюстрацыяй нашых слоў, а так-жа доказам вялікіх духоўных перамен і артыстычна-жыцьцёвай сьпеласьці паэта, можа служыць ягоны верш „**Мой дом**“, поўны гучнасьці, глыбіні, размаху і характва. Вось ён:

„Мой дом — прывольле зьвёзднай далі,
„Арламі мераны абшар,
„Дзе бітвы точуць ветраў хвалі
„З сям'ёй глухіх, калматых хмар.

*

„Мой дом—амшалай пушчы сховы,
„Сяліба ясеняў, сасон,
„Дзе сьмех русалчын, лясуновы
„Палошыць вечна-цяглы сон.

„Мой дом—пяшчаныя разлогі,
„Пакута сьцюжы і сьвякот,
„Дзе ў скібах лад вядуць нарогі,
„Аздобай цьвет—чырвоны пот.

*

„Мой дом—узмежных зёлак восьці,
„З сухой асінаю курган,
„Дзе тлеюць прадзедавы косьці,
„Дзе плача ночка ды туман“.

Багацьце форм і рожнароднасьць зьместу ў гэным зборніку — проста нязвычайныя.

Як і ў папярэдніх так-жа і ў гэтым зборніку чувадь моцныя польскія ўплывы, асабліва ў жартаўлівых паэмах—гутарках.

Цэнным для беларускае літэратуры зьявішчам ў гэтым зборніку ёсьць тое, што аўтор закранае тут між іншым і **беларускія гістарычныя тэмы**, праўда, у форме фантастычна-легендарнай, але гэта зусім не памяншае іх вартасьці. (Паэмы: „**На Куцьцю**“ і „**Курган**“).

Гэтак-сама зьвяртае ўвагу глыбіня думак і пачуцьця, знаходзячая свой выраз у радзе мастацкіх імпрэсыяў.

Нікаторыя з іх сьмела могуць раўняцца з творамі нябошчыка Багдановіча, вялікага **maestro** беларускага слова, аўтора вядомага добра кожнаму беларускаму інтэлігэнту—„**Вянка**“.

Для прыкладу даём тут адну з гэткіх імпрэсыяў п. н. „**Па межах родных**“, вызначную дэлікатнасьцяй настрою, музыкальнасьцяй вершу і глыбокім сумам..

„Па межах родных і разорах,
„Пад небам зводна—неспагадным,
„Спакоем воджаны век здрадным,
„Сную, і нейкі са мной шорах.

„Са мной, за мною ўсьлед сум—вораг
„З глухім нашэптам няпрыпадным: —

„Як ты ня хочаш быць прагляднымі, —
„Сягоньня ўсё тут — як і ўчора-х!

„Усё жыве тым самым Богам, —
„Таксама шумнае прадвесьне
„Усей ня зводзе з гоняў плесьні...

„Араты ўсход нясе адлогам: —
„Курган чапаючы нарогам,
„Ня ўспомне прадзедавай песьні“.

На спэцыяльную ўвагу заслугоўваюць тут, гэтак характэрныя для Купалы, фантастычныя, або містычна-казачныя вершы, поўныя багоў, дзіватвораў і зьяў, зачэрпнутых з багатай крыніцы славянскае міфалёгіі.

Адным з найпрыгажэйшых вершаў гэнае галіны з'яўляецца „**Песьня-байка**“ (З за далёку, з пад усходу Віхар мычыца ў непагоду“... і г. д.).

Як гэта звычайна бывае ў вялікіх зборніках, гэтак і тут прыгожыя вершы, а на'т сапраўдныя пэрлы паэзыі, пераблытаны з сярэдняй вартасьці драбязой; вось-жа варта-б было выбраць больш прыгожыя вершы гэнага вялікага зборніку, у якім яны затушоўваюцца, і выдаць асобнай кніжкай. (Пры нагодзе адзначым і тое, што ў выпадку паўторнага выданьня „Жалейкі“, трэ' абавязкава замяніць старую ортографію сучаснай, а роўна-ж выкінуць найбольш яскравыя русыцызмы, дый полёнізмы; часткова ўвага гэная датыча і зборніка „Гусьляр“).

Дзеля таго, што зборнік „**Шляхам жыцьця**“ ўсім знаёмы, а больш падрабязны разгляд ягонага зьместу заняў-бы шмат мейсца, абмяжоўваемся тут толькі да адзначаньня **найлепшых** вершаў, знаходзячыхся ў паасобных аддзелах зборніку, назовы-ж гэных аддзелаў дадуць нам панятцьце аб галоўных тэмах, якія закрануў тутака наш паэт.

Аддзелаў гэных ёсьць усяго ажно 7.

Аддзел 1-шы носіць назоў „**Бацькаўшчына**“ і прысьвячан пераважна тэмам патрыятычным.

Зьмешчаны ў ім ўступны верш, у якім паэт, ахарактарызоўваючы зьмест свайго зборніку, кажа між іншым, што:

„Усяго па крысе знойдзеце вы: гэта —
„Пры сасе, пры касе собрана за лета.

# Бязпрыкладнае зьдзічэньне польскага студэнства.

### (Да сьвяткаваньня І-га мая ў Вільні).

Сялетняе сьвяткаваньне 1-га мая, як у ва-ўсей Польшчы, так і ў Вільні, прайшло нязвычайна, бо на вуліцах нашага спакойнага места адбылася крывавая бойня.

Як і трэба было спадзявацца, работнікі і безработныя ўсялякіх партыяў зарганізавалі паход і паючы рэвалюцыйныя песьні, вышлі на пляц Катэдральны. Тут сталяся тое, чаму проста трудна паверыць:

Студэнты Віленскага Унівэрсытэту згуртаваўшы заўчасу спэцыяльную баёўку, кінуліся на дэманстрантаў, пачалі іх біць, адбіраць і рваць сьцягі, на каторых віднеліся пераважна дамаганьні хлеба і працы. Да бітвы ўмяшалаcа паліцыя. Тады студэнты пачулі мацнейшы грунт пад нагамі. Яшчэ больш раз'юшаныя кінуліся яны з палкамі на безработных маніфэстантаў, якія бачучы конную паліцыю з голымі шаблямі па старане студэнтаў і групы моладзі польскіх сярэдніх школ, пачалі разьбягацца.

У выніку бітвы аказалася каля 10 чал. раненымі.

Гэты сумны факт барацьбы інтэлігэнтнай моладзі з працоўнымі, якія вышлі на вуліцу, каб прыдаць больш урачысты характар Сьвяту Працы, напаўняець жахам кожнага спакойнага грамадзяніна. Бо сталася вось што: значная частка польскага студэнства ў Вільні, таго самага студэнства, якое атрымала ў спадчыне поўныя гуманнасьці і святасьці традыцыі філярэтаў і філяматаў часоў Міцкевіча, сяньня гэта студэнства аб'яўляе сябе заклятымі ворагамі працоўных, сяньня яно становіцца звычайнай арміяй паліцыі, з якой становіцца плячо ў плячо, каб апаганіць і папоўніць сумам Сьвята Працоўных.

Што значны лік студэнтаў Віленскага Унівэрсытэту працуе ў дэфэнзыве і на'т на палітычныя обыскі зьяўляюцца ў сваіх белых шапках, аб гэтым ужо ўсе ведаюць даўно, але што гэты будучыя правадыры, гордасьць і надзея нацыі могуць арганізаваць баёўкі, каб пад маскай змаганьня з сацыялізмам і жыдамі, маглі зьняважаць і біць сваіх карміцеляў, аб гэтым стала вядома толькі 1-га мая 1926 г. Гэта зьявішча безпрыкладнага зьдзічэньня сучаснай польскай моладзі паказвае ясна, што старшае польскае грамадзянства не далёка асталося ад маральна разваленай моладзі. Больш таго: гэта даказ **узгадаваньня сучаснага грамадзяніна ў атмасфэры рэакцыі, ясьне-панскіх традыцыяў і бэстыяльскага нацыяналізму**.

І незалежна ад таго, як зарэагуюць масы віленскага польскага студэнства ў сваім цэлым на праявы зьдзічэньня з боку іх азьвярэўшых калег, усё роўна з белай студэнскай шапкі трудна будзе змыць першамайскую крывавую пляму — **кляймо нячуванай дагэтуль ганьбы для польскага студэнства!**

**Быўшы студэнт.**

# З Польшчы.

### Урадавы крызыс.

Урад графа Скшынскага, дажыў апошніх дней. Правіца абвіняе ў гэтым пэпэсаў, каторыя дамагаліся надрукаваньня 300 міл. папяровых грошаў нічым не забяспечаных. З гэтай сумы пэпэсы праектавалі палавіну даць на пушчэньне ў ход шмат якіх прадпрыемстваў з мэтай даць хлеб безработным, другую-ж палавіну тэй сумы праэктавалася скіраваць на пазычкі зямельныя і патрэбы промыслу. Міністар скарбу Зьдзехоўскі і прэзэс фінансавай камісіі Гломбінскі спрацівіліса гэтаму і прадставілі свае праекты, аснаваныя на ўвядзеньні новых вялікіх падаткаў і звальняньні ўрадоўцаў. Спрэчкі гэты давялі да таго, што два міністры пэпэсаўцы лічылі супрацоўніцтва ў габінэце Скшынскага немагчымым і падаліся ў адстаўку.

Такім чынам урад астаўся няпоўным і ня мог лічыцца па саставу за такі, за які галасаваў Сойм.

Дзякуючы гэтаму Скшынскі, ідучы за прыкладам сацыялістычных міністраў, заявіў Прэзыдэнту аб сваей адстаўцы. Прэзыдэнт выслухаўшы прычыны заявы Скшынскага, адстаўкі яму ня даў і загадаў працаваць з астаўшымся куртатым саставам міністраў.

Правіцовая прэса заглядалася на гэты факт атказу Прэзыдэнта, як на „дзяржаўную патрэбу“, бяручы пад увагу правядзеньне бюджэту на май, катастрафічнае гаспадарчае палажэньне, ну, і... першамайскую загадку.

5-га мая Скшынскі йзноў падаў Прэзыдэнту адстаўку, якая гэтым разам была прынята.

У сувязі з сучасным крызысам у палітычных кругах зьявілася вестка, бытцам ген. Сікорскі, конкурэнт Пілсудскага, паціху прыехаў у Варшаву, каб навязаць лучнась з сваімі палітычнымі прыяцелямі.

Вось калі ўзяць яшчэ пад увагу нязгоду сярод верхаводаў польскай арміі, то маецца ўражэньне, што стаём перад важнымі і раптоўнымі пераменамі ў жыцьці польскага гаспадарства, а з гэтым разам і ў жыцьці нашага сярмяжніка з Заходняй Беларусі.

### Сьвятказаньне І-га Мая.

У дзень работніцкага Сьвята Працы не працавалі ў Варшаве ўсе большыя фабрыкі. Рух трамваяў пачаўся толькі а 4-ай гадзіне.

У рабочых частках места ад раніцы зьбіраліся работніцкія паходы. А гадзіне 10-ай на пляцы Тэатральным сабралася каля 10 тысяч работнікаў. У часе паходу на вул. Мядовай з натоўпу стрэліў нейкі студэнт, якога маніфэстанты пабілі палкамі. Да паважных забурэньняў дайшло на Кракоўскім Прадмесьці, Новым Сьвеце і Трыкрыскім Пляцы. Да паходу былі з публікі даваны выстралы, а на ўпомняным пляцы група моладзі заатакавала пэпэсаўскую міліцыю густымі выстрэламі, пасля чаго пэпэсы аткрылі страляніну ў бок напаўшых. У працягу дня пры гэтых сутычках забіта некалькі чалавек. Раненых налічаюць каля 50 душ. Варшаўскія сацыялісты (пэпэсы) мелі праціў сябе два фронты: з аднаго боку эндэкі, з другога—камуністы.

У Новым Двары пад Варшавай дайшло да сутычкі маніфэстантаў з паліцыяй, якая дала залп да маніфэстантаў. Забіты 1, ранена больш дзесятка.

У Заглэмбі Дамброўскім сацыялісты з камуністымі не паладзілі.

У іншых местах Польшчы 1-шы мая прайшоў даволі спакойна.

Аб здарэньнях гэтага дня ў Вільні, знойдзе чытач у іншым мейсцы гэтага нумару.

# З Заграніцы.

### Загранічны гандаль Літвы.

У мес. сакавіку літоўскі вываз дайшоў да 25 міліёнаў літаў, перавышаючы за люты на паўміліёна літаў і за студзень—на 5 міліёнаў. Літоўскі ўвоз за сакавік дайшоў больш 19 міліёнаў літаў перавышаючы ўвоз за люты на 3 з лішнім міл. літаў і за студзень на 6 міліёнаў. Увоз за сакавік больш за ўсё павялічыўся дзякуючы дастаўцы штучнага навозу, машын і каменнага вугля.

### Літоўска-савецкія перагаворы.

„Эхо“ падчырківае труднасьці вядзеньня літоўска-савецкіх перагавораў. Урад літоўскі стаіць прад пытаньнем, ці хопіць яму сілы праканаць Эўропу, што гэты перагаворы ня тайнага характару і маюць на мэце агульны мір. Ніхто ня можа сказаць напэўна — піша „Эхо“ — ці перагаворы кончацца памысна, бо разумная ўступлівасьць Літвы можа мець свае граніцы.

„Gazeta Poranna“ ў карэспандэнцыі з савецкай граніцы піша: Паводле вестак з Масквы, перагаворы савецка-літоўскія блізяцца да канца. Староны дабіліся паразуменьня ў ва-ўсіх падставовых пытаньнях. Умова мае зьмяшчаць, паміж іншым, пункт аб нэйтралітэце да іншых балтыцкіх рэспублік. Дзеля Клайпэды прадугледжаны перавозныя льготы.

### Літоўскі міністар аб перагаворах Літвы з Саветамі.

Міністар Рэйніс катэгарычна запярэчыў весткам загранічнай прэсы аб падробнасьцях савецка-літоўскіх перагавораў. Заявіў ён, што мэтай перагавораў зьяўляецца заключэньне ўмовы, падобнай да ўмовы савецка-турэцкай, г. зн. аб ненападаньні, нэйтралітэце і да забавязаньня не рабіць умоваў, скіраваных проціў другой стараны. У праекце літоўска-савецкай умовы, кажа міністар, — няма ніякага ўспаміну аб гатоўнасьці абяцаньняў Літве ўладаньня Віленшчынай і Клайпэдай пад варункам зрачэньня Літвы ўступаць да балтыцкага саюзу.

### Фронт савецка-нямецка-літоўскі.

Парыская газэта „Petit Parisien“ піша, што між Саветамі, Нямеччынай і Літвой заключана ўмова, якая зьяўляецца дапаўненьнем бэрлінскага трактату.

---

„Шчырым сэрцам, душой складана няхітра,
„Знама — свой, не з якой там з „звёздкай“, ці мітрай,
„Што-небудзь мо' ня так — прашу прабачэньня;
„Трудна ў рыхт—часу брак, мазаліста жменя“...
— і г. д.

не стаіць ў ніякім адношаньні да інтэлігэнтнага і мастацкага зьместу зборніка і можа быць тлумачана толькі жаданьнем паэта заахвоціць беларускага селяніна да роднай кніжкі, у якой ягоная недаверчывая душа лёгка магла-б дашукацца толькі новага панскага зьдзеку над ягонай „простай“ мовай, што ў свой чарод магло-б ізноў дрэнна адбіцца на пасьпеху зборніка сярод гэнага-ж сялянства.

Але гэткае разважаньне можа апраўдаць зьмяшчэньне гэтага скромнага вершыка на заглаўным мейсцы толькі ў прадваенныя часы, цяпер-жа беларуская народная сьведамасьць гэтак пасгупіла ўперад, што на гэткія праявы няма ўжо мейсца і вершык гэны ў новых выданьнях трэ' перанесьці недзе далей, замяняючы яго іншым чарговым, напрыклад, пад назовам **„Песьня мая“**, які надта ж добра характэрызуе асноўныя моманты творчасьці Купалы.

З вершаў найбольш вызначаюцца тут гэткія: 1) поўная пачуцьця **„Песьня сонцу“** (старонка 12), 2) містычная **„Песьня—байка“** (стар. 13), 3) бадзёрнае **„Гэй на перад!“** (стар. 19), 4) прыведзены вышэй **„Мой дом“** і 5) поўны патрыятычнае тугі за Бацькаўшчынай верш **„Я ад вас далёка“** (стар. 23).

Аддзел II-гі **„Па межах родных...“** апісвае беларускую прыроду і родныя краявіды. Асабліва прыгожай зьяўляецца ў гэным аддзеле прыведзеная вышэй ўступная імпрэсія **„Па межах родных і разорах“** (стар. 57), вызначная: дэлікатнасьцяй настрою, арыгінальнасьцяй формы і модэрністычнай апрацоўкай.

III-ці аддзел **„Для яе“**, прысьвячан каханьню і адзначаецца рожнароднасьцяй любоўных перажываньняў і настрояў.

IV-ты аддзел **„Наша вёска“**, малюе нам вясковы быт беларускага селяніна. Вершы гэтага аддзелу, мала рожняцца ад вершаў на аналягічныя тэмы ў папярэдніх зборніках.

V-ты аддзел **„Сваім і чужым“**, прысьвячаны тэмам патрыятычным, а так-жа памяці выдатных адзінак, пераважна з літэратурнага міру, сваіх і чужых.

Тут заслужваюць на ўвагу гэткія вершы: 1) поўнае пачуцьця **„Роднае слова“** (стар. 144), 2) вядомая песьня **„Не пагаснуць зоркі ў небе...“** (старонка 146), 3) пяруновы верш **„Ворагам беларушчыны“**, 4) поўнае іроніі і сардэчнага болю **„На рынку“** (старонка 149) і 5) магутны верш **„Наша песьня“**.

VI-ты аддзел носіць назоў **„Байкі і аповесьці“**. З баек найлепшымі будуць: **„Мікіта і валы“** ды-й **„Два мужыкі і глушэц“** (стар. 173 і 174).

З повесьцяў-жа зьвяртаем увагу чытачоў на невялічкую паэму **„На Куцьцю“** (стар. 197), **якая зьяўляецца запраўдным шэдэўрам і заслугуе на асобнае багатае выданьне яе са стыльнымі ілюстрацыямі.**

Зьмест гэнае чароўнае, ды чамусь не зьвярнуўшае належнае ўвагі крытыкаў, паэмы гэткі: на руінах старога замчышча, зьбіраюцца раз у год на Куцьцю духі мінуўшчыны — беларускі князь з княгіняй сваей і дружынай; ідзе шумная бяседа; князь выслухаваець даклады трох ганцоў, так-жа духоў, прыбыўшых з усіх куткоў Беларусі і прыносячых весткі аб сучасным сумным, але не безнадзейным становішчы краю і народу беларускага; выслухаўшы рапарту ганцоў, князь ізноў рассылае іх па ўсей беларускай зямлі, а гучная бяседа йдзе далей, покуль не прапяюць першыя пеўні, —тады ўсё нікне...

Вось, для прыкладу, рапарт трэцяга ганца:

„І трэці князю гэткі сказ
„І княжне скажа міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
„І відзеў, што яны ўсе жывы.

„А толькі торг усё ідзе
„Над іх душою патаптанай;
„Яны, як цені, у грамадзе
„Маўчаць і йдуць на пір паганы.

„А як ударыў па струне,
„Замятушыліся, як пшчолы,
„І на гарэ і нізіне
„Мне падавалі голас кволы.

„За мною ўсьцяж і тут і там,
„Іх вусны бледныя шапталі:

„Аддайце песьню нашу нам!
„Нашто схавалі — расхапалі?“

А вось яшчэ адказ князя ганцом, па выслуханьні іх рапартаў:

„Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
„Раз хочуць сонца, славы, песьні;
„Заб'юць ім зычныя званы
„Прабудным звонам на прадвесьні.

„Сваёй забранай старане,
„Скаванай мучаніцы — княжне,
„Ўзнясуць пасад на кургане
„На панаваньне недасяжне.

„На дзеле — кожны йшчэ слугой,
„У думках — вольныя ўжо людзі;
„Над сэрцам іх, над іх душой
„Наш дух лунаці вечна будзе“.

Затым трэ' тут яшчэ ўспомніць вядомую паэмку **„Курган“** (стар. 220), сымбалічна-казачную паэму **„Чараўнік“** (стар. 227) ды-й драматычны абраз **„На папасе“** (стар. 233).

Апошні аддзел VII, носіць тытул **„Пераклады з польскае мовы“**.

Найлепшыя тут будуць пераклады з Міцкевіча, якія трэ прызнаць першараднымі.

Найбольш мастацка пераложаны: **„Пані Твардоўская“** (стар. 251) і **„Удагонку“** (стар. 254) і далей ідуць **„Трох Будрысаў“** і адрывак з паэмы **„Канрад Вальленрод“**.

Беларускае грамадзянства належна ацаніла каралеўскі дар свайго вялікага песьняра; першае выданьне зборніка **„Шляхам жыцьця“** хутка разышлося і ў 1923 годзе зьявілася ў Вільні ўжо 2-гое папраўленае яго выданьне, выпушчанае праз заслужаную для беларускага руху фірму Б. А. Клецкіна.

— — — — — — — — — — — —

Канчаючы гэтым літэратурны агляд зборніка **„Шляхам жыцьця“**, трэба адзначыць, што ён з'яўляецца адным з тых непраходзячых скарбаў духоўных беларускага народу, якіх — кажучы славамі Эвангэльля **не кране іржа, не папсуе моль, а ні ўкрадзе ніякі злыдзень!...**

**Сьветазар.**

## Ад Адміністрацыі.

Адміністрацыя „Сялянскай Нівы“ прыпамінае ўсім падпішчыкам, якія ня прыслалі грошаў на газэту, каб парупіліся незабавам урэгуляваць падпіску.

### Мірныя перагаворы з Абд-Эль-Крымам.

Француска-гішпанская старана 1-га мая дavailable... 

### Сьмерць Эльлен Кэй.

У Штокгольме 25 красавіка памёрла Эльлен Кэй, вядомая літэратка і адна з найчыннейшых верхаводаў незалежніцкага руху жанчын.

### Забастоўка ў Англіі.

У пятніцу 30 красавіка пачалася забастоўка ў вуглёвым промысьле. У зьвязку з гэтым, мае адбыцца конфэрэнцыя Трэд-Уніёнаў, у якой прымуць учасьце прадстаўнікі ад 5 міліёнаў работнікаў. Урад спадзяючыся пашырэньня забастоўкі і на іншыя галіны промыслу, робіць захады, каб забаставаўшых замяніць ахвотнікамі і войскам.

### Забурэньні ў Індыях.

У выніку нязгоды між індусамі і магамэтанамі ў Калькуце забурэньні ўсцяж трываюць. Паўстанцы зьнішчылі цалком абстаноўку паштовага ўраду. Начальнік прэфэктуры забіты днём на вуліцы. Лік раненых і забітых у працягу апошніх дней, перавышае 400 чалавек. Большая частка прадпрыемстваў стаіць. Не хапае вады, газу і электрычэства.

Па апошніх вестках палажэньне ў індускіх часьцях места палепшала, аднак усе магазыны зачынены.

## ХРОНІКА.

— **Радашкоўскае Т-ва Беларускай Школы** падало да куратара заяву аб дазволе на адчыненьне ў Радашковічах пры Гімназіі летніх курсаў для беларускіх вучыцялёў. Курсы абыймаюць праграму паляністыкі і беларусазнаўства, патрэбную для кваліфікацыі пачатковых вучыцялёў.

— **Справа Базыльянскіх муроў.** 1-га мая мелася ў Судзе Апэляцыйным разьбірацца справа Базыльянскіх муроў, у якіх памяшчаецца Беларуская Гімназія і іншыя беларускія ўстановы.

Вось урад стараецца захапіць муры ў свае рукі і не чакаючы прысуду ўжо даўно прыбіў дошчачку да муроў з надпісам „dom rządowy“.

Дзеля прыпадаючай на 1-га мая Вялікай Суботы ў праваслаўных, суд справу адлажыў.

— **„Дэман“ пабеларуску.** Знамянітая паэма расейскага паэта М. Лермантава перакладзена на беларускую мову Макарам Краўцовым, якога пераклады агулам, трэба прызнаць, за вельмі ўдачныя. Прадаецца ў беларускіх кнігарнях.

— **Зьезд Рады п. Паўлюкевіча.** Пад канец бягучага месяца Тымчасовая Рада склікае ў Вільні зьезд. Відаць п. Паўлюкевічу ўжо надаела тымчасовасьць і ён хацеў-бы яе перамяніць на вечнасьць, нам аднак здаецца, што гэты зьезд не паможа, бо ніводзен беларускі селянін на зьезд, ладжаны за польскія казённыя залатоўкі і для сваіх казённых мэтаў, не паедзе. Дык, сяляне, сьцеражыцеся!

— **Канфіскаты.** Камісар ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 3 „Беларускай Справы“ за стацьці „Безработныя“ і „Да сьвяткаваньня 1-га мая“, а так-жа налажыў арышт на № 42 літоўскай газэты „Vilniaus Aidas“ за стацьцю „Ня той дарогай“ і іншыя.

— **Высяленьне ксяндза-літвіна.** Калі польскай уладзе пачынае непадабацца які патрыёт з „меншасьці“, дык такіх нават высылаюць за граніцу як „чужаземцаў. Так было нядаўна і з кс. Эрціусам, якога выслалі на літоўскую граніцу. Гэта здарэньне дало повад польскай эндэцкай прэсе падахвочываць адміністрацыю высяляць рад іншых літоўскіх ксяндзоў. Аб высяленьні польскіх ксяндзоў з Літвы неяк мы дагэтуль ня чулі. А што будзе калі літвіны захочуць быць пільнымі вучнямі сваей „мілай“ суседкі?

— **Прысуд над камуністымі.** 22 сакавіка Акружны Суд у Вільні, пасьля разгляду справы 94 душ абвінавачаных у камунізьме, 36 засудзіў у вастрог ад 6 месяцаў да 6 гадоў. Рэшта абвінавачаных у ліку 58 апраўдана.

— **На работы заграніцу.** Дзяржаўны Урад Пасрэдніцтва Працы паведаміў Міністэрства Працы, што з тэрыторыі Віленскага Ўраду Пасрэдніцтва Працы можа выехаць за граніцу на работы 180 работнікаў зямельных, 50 такіх-жа работніц і 160 работнікаў няспэцыялістаў. Такім чынам разам можа выехаць 390 работнікаў.

— **Цэны на земляробскія прадукты з дня 30.IV.:** жыта 29.00—29.50 зл. за 100 клг., авёс 38.00—45.00, броварны ячмень 34.00—36.00, на кашу 32.00—34.00, вотрубы жытнія 25.00—28.00, пшанічныя 25.00—28.00, белы гарох 45.00, бульба 13.00—14.00, сена 20.00—24.00, насеньне чырвонае канюнюшыны 45 зл. за 10 клг., масла 6.50—7.00 за кг.

— **Рынковыя цэны** з дня 30.IV.: Мука пшонная 90—1.00 гр. за 1 кг., жытняя пітляван. 55—56, разовая 35—37, хлеб жытні 50% 55—57, 70% 50—52, разовы 35—36, каша грачнёвая 80, аўсяная 1.40, пансак 60—67, бульба 15—16, буракі 15—20, бручка 25—30, цыбуля .80—1.00, морхва 45—50, капуста квашаная 30—35, сьвежая 70—80, малако 40—45 за літр, сьмятана 2.00—2.40, вясковы сыр 1.40—1.80, за 1 клг., масла нясоленае 5.00—5.50, соленае 4.50—5.00, яйко 12—13, валавіна 1.60—1.80, цяляціна 1.20—1.50, бараніна 1.60, сьвініна 1.60—2.00, сланіна сьвежая 3.00, шмалец сьвінны 4.60—4.70, сала 3.00—3.20, льняны алей 3.00—3.30, цукер пясок 1.30—1.50, кускі 1.70—180, белая соль 30—35.

— **Цэны на рыбу** з дня 30.IV.: акунь 2.50 за 1 клг., шчупак 2.50, лін 3.00, плотка 1.00—2.00, лешч 3.00—3.20, дробная —.80.

— **Афіцыяльны курс грошаў** на 5.V. Даляр — 9 зл. 90 гр. Залаты рубель — 5 зл. 09 гр.

На чорнай гелдзе ў Вільні за даляр плацілі 10 зл. 30 гр.



СЯЛЯНЕ! Прысылайце падпіску, падахвочвайце другіх прысылаць грошы і пашырайце „Сялянскую Ніву“.



## Пісьмы з вёскі.

### Троха аб нашай інтэлігэнцыі.

**Грыцэвіцкая вол.**, Нясьвіскага пав.

У нашай воласьці, як і ў іншых кутках Беларусі ёсьць ня мала сваей сялянскай інтэлігэнцыі ў асобах быўшых вучыцелёў, ахвіцэраў, фэльчараў, паштовых служачых і г. д.

Дык вось здавалася-б, што такія людзі, маючы такую-сякую асьвету, павінны-бы для нас, мужыкоў, сеяць родную культуру. Але ў нас гэтага няма. Наша інтэлігэнцыя, папросту сказаць, сьпіць у шапцы, як і мы цёмныя мужыкі. Яшчэ нам, мужыкам, гэты сон можна і даравацъ, бо мы невукі, цёмныя, забітыя людзі, сон-жа нашай інтэлігэнцыі гэтым вытлумачыць нельга, затое, што гэты сон ёсьць толькі нядбаласьць і трусасьць. Пасьля гэтага ня будзе дзіўным, што ў нашай воласьці пашыраецца п'янства, распуста, дробнае зладзейства, бітвы, адборная расейская лаянка сталі звычайнымі зьявішчамі. Ня будзе дзіўным і тое, што наша сялянства пакінутае бяз духоўнае стравы са стараны сваей-жа інтэлігэнцыі, у змаганьні за родную беларускую школу не падало аніводнае дэкларацыі! Агулам кажучы ў нашае воласьці ніякае роднай беларускай культурнай працы не вядзецца. Затое пышнымі кветкамі распускаюцца розныя: „kółka“, „sekcje“, мэта каторых ясная: апалячываньне.

Праўда і ў нас на Калядах і ў мясаедзе ў некатарых вёсках як: Запольле, Бурочкі, Мервіны, Яновічы, адбыліся тэатральныя прадстаўленьні, але што гэта значыць на воласьць, каторая мае адных толькі вёсак нешта 35—40. Трэба сказаць, што ладзіліся яны выключна вясковай моладзьдзю; наша інтэлігэнцыя і на гэту нявінную забаву глядзіць коса, баіцца, відаць, згубіць апінію ў вачах начальства!

Адна ўцеха і ёсьць толькі ў тым, што прыходзяць да нас беларускія газэты, з іх толькі і даведываемся, што робіцца на сьвеце, імі толькі і праганяім сваю нуду, сум. І з іх „Сялянская Ніва“ найбольш адказвае нашым імкненьням і жаданьням.

**Мужычок.**

### Хто карыстаецца з нашага дабра?

З пад **Белавежы.**

Калі зрэзаць сухую сасну (сырой ня можна) і ведама-ж, калі яна здаровая, то чалавек хацеў-бы з яе мець якісь матэр'ял на будоўлю, (бо дужа ёсьць не адбудаваных ад 1915 году), але за фэстмэтр гэткага палена, калі грубіня яго серадніцы будзе да 40 сант., трэба заплаціць 8—10 злот.; вышэй 40 сант.—12 зл. Калі-ж парэзаць гэтае палена на мэтровыя кускі ды пашчэпаць і злажыць у кубічны мэтр дроў, то гэты мэтр каштуе ад 70 да 90 грош. не даражэй, (з фэстмэтравага палена будзе больш-менш куб. мэтр дроў). Хто-ж карыстаецца з гэтага? а вось хто: прамыслоўцы і купцы. Яны валяць лес І-ай катэгорыі, псуюць яго на дровы з заплатаю 70 гр. мэтр, дастаўляюць у Белавеж, дзе пры чыгунцы прадаюць па 8—9 зл. мэтр і так перапаласкалі ўвесь лес, а жыхар вясковы як ня меў хаты, так і далей ня мае, дзякуючы добраму ўраду.

**Падпушчанец.**

### Сабачая рэдукцыя.

**Кузьніца**, Горадзенскага пав.

Справа вось якая. Яшчэ ў 1925 годзе ў восені, дзеля ахраны чыгункі (участак Беласток—Горадня, а можа гэта было і па другіх чыгунках) былі пастаўлены старажы з... сабакамі. На $2^1/_2$—3 вярсты стаяў сторож з сабакаю або двумя. Сторажу плацілі па $3^1/_2$ злотых у дзень, а сабацы 16 зл. у месяц. Сабака „сталаваўся“ ў будачніка, за што пасьледняму плацілі 16 злотых. Сабакі гэныя бытцам былі выпісаны з Францыі (значыць—благанадзёжныя), бо ў нас, праўда, такіх сабак ня відаць—шэрых, як ваўкі, з стаячымі вушамі. Сторож днём спаў, а ў начы хадзіў па чыгунцы з сабакаю, ляхтарняю і кіём. Так прайшло месяцы са 3; уся Польшча кінулася do oszczędności, а сабак пасадзілі ў вагоны і павязьлі няма ведама куды. Адны кажуць, што іх паслалі ў Вільню на курсы на арцельных стараст (а мо' дырэктараў?), другія—што іх паслалі на „крэсы“ палянізаваць беларускіх сабак, а некатарыя сьмяхуны божацца, што ўсіх гэных француска-польскіх сабак прадалі гуртам віленскім гіцлям. Гавораць, што ўся гэта махінацыя каштавала ні адну тысячу злотых, а кончылася такой нечаканай рэдукцыяй.

**Мірскі-Лабоцкі.**

### Што далей, то горэй.

Вёска **Лінкаўшчына**, Браслаўскага павету.

Прышла да нашага селяніна цяжкая хвілінка жыцьця. Дагэтуль яшчэ жылі сяк-так, хоць і незавіднае было жыцьцё, бо зямелькі маем усяго па 3 дзесяціны. Аднак калі быў каля нас двор, можна было дастаць зямлі хоць на запашку ці арэнду. Нявялікая была з гэтага карысьць, бо, ведама, трэба было больш працаваць на пана, як на сябе. А цяпер? Зямлю пан прадаў, лес высек у пень. На гэтай зямлі цяпер абсела нас шляхта як скульё благое, а мы, бедныя, асталіся, як кажуць, пры разьбітым карыце, бо ня мелі за што купіць зямлі. Асталося ў некатарых сялян цяпер па палянцэ як каню пакаціцца. Вось тут і жыві! Ні каравёнкі, ні канёнка няма куды выпусьціць. А гэта для нас усё навука, бо мы цёмныя і неарганізаваныя; чакаем усе, хто для нас што дасьць. Цяпер аднак мы ўжо праканаліся, што апрача сваіх, няма ў нас прыяцеляў, бо былі ў нас немцы, бальшавікі, а цяпер палякі і ні адны не далі нам нічагусенька.

Дык будзем мы, сяляне, самі сабе долю каваць! Будзем гарнуцца да свайго Сялянскага Саюзу, — можа тагды прыдзець да нас тая вясёлая хвіліна, што ўзбудзіць нас ад доўгага сну, бо мы цяпер сьпім!

**Я. Шынкевіч.**

## Браты Беларусы!

Хто можа, ахвяруйце **кніжак**, хоць у якіх мовах на нашую Бібліатэку Ім. Фр. Скарыны ў Барадзенічах Браслаўскага пав.

Кніжкі можна пакідаць у **Кнігарні Станкевіча, Вострабрамская вул. 2.**

**Сяляне Барадзеніцкія.**

## Наша Пошта.

**Асмаловічу Якубу:** У прысланых адрэсах Вы не напісалі прозьвішчаў.

**Чапуленку Мікалаю:** Прозьбу споўнім. Старых марак нам ня трэба.

**Р. Морданю:** Газэту будзем высылаць. Грошы можна слаць пераводам, або заплаціць за газэту на тэй пошце, якая будзе Вам „Сялянскую Ніву“ выдаваць.

**Фр. Кукуцю:** Газэту будзем высылаць. Кніжкі выслаць можна толькі па атрыманьні грошаў. Вершы Вашы слабыя,—не надрукуем.

**А. Цітовічу:** Вельмі нас цешыць сьведамасьць беларускай моладзі ў Вашай вёсцы. З карэспандэнцыі скарыстаць не абяцаем,—замала цікавая.

**Шпільцэ:** За карэспандэнцыі дзякуем, пастараемся выкарыстаць.

**Атрымалі:**

Ад: М. Зёнтака 5 зл., Жэмойды Язэпа 4 злот., Дзенькова П. 2 зл. 50 гр.

Ад: Карповіча Сяргея, Антуха Антона, Карніловіча Дзямяна, Рубаніка Лукаша, Зарэгі Ігната, Мацука Пётры — па **2** зл.

Ад: Раманца Каз. 1 зл. 40 гр., Кс. Бруквіцкага 1 злоты.

Арганізуецца нанова
беларускі мяшаны ХОР
пад загадам **А. СТЭПОВІЧА.**
Запісацца можна ў Адміністрацыі „Сялянскай Нівы„ штодзень ад 12-ай да 2-ой гадз.

Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.